

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ**




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 13 (600)** **9 КРАСАВІКА 2003 г.**


# "Наша слова" № 600

## Заява Сакратарыяту ТБМ з нагоды новага праекту *"Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі"*

Апошнім часам у друку з'явілася інфармацыя пра новы праект "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", створаны адпаведнай камісіяй. На нашу думку, гэты праект падрыхтаваны без клопату пра будучыню і самабытнасць нашай мовы.

ТБМ выказвае сваю рашучую нязгоду з аўтарамі праекту. Вышэйзгаданы дакумент не закранае і не вырашае ніводнага спрэчнага пытання сучаснага беларускага правапісу і толькі ўносіць блытаніну. Так званы новы праект цалкам ігнаруе нормы беларускай мовы, якія былі ў ёй да рэформы правапісу 1933 года. Іх вяртанне і на сёння застаецца актуальным пытаннем.

Змены ў мове як духоўнай скарбніцы народа павінны абмяркоўвацца больш шырока, а не прымацца вузкім колам зацікаўленых навукоўцаў.

ТБМ лічыць, што такая рэформа арфаграфіі ў сённяшні час, калі мова актыўна выцясняецца з шырокага ўжытку, заўчасная і нават шкодная.

**Сакратарыят ТБМ.** 3. 04. 2003 г.

## Ці будуць унесеныя змяненні ў Закон аб мовах?

*1 красавіка ў "Звяздзе" надрукавана інтэрвію Сяргея Каралевіча з афіцыйнымі асобамі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Паколькі ў інтэрвію ідуць пастаянныя спасылкі на Прапановы ТБМ па змене Закона аб мовах, і гэтыя спасылкі не заўсёды дакладныя, мы друкуем інтэрвію і пачынаем друкаваць Прапановы ТБМ (ст. 2).*

Моўнае пытанне працягвае заставацца для Беларусі атуальным. Пасля заканадаўчага афармлення роўнасці беларускай і рускай моў сфера ўжытку першай працягвае заставацца дастаткова вузкай. Размова аб магчымасці выпраўлення сітуацыі, у тым ліку і праз унясенне змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", вядзецца ўжо даволі даўно. У гэтым годзе абмеркаванне праблемы пэўным чынам актывізавалася. Свой праект змяненняў прапанавала Таварыства беларускай мовы. **У Палаце прадстаўнікоў паведамляюць, што законапраект можа быць падрыхтаваны да першага чытання ўжо чарговай сесіі, якая пачнецца на пачатку красавіка.** Якія ж змены могуць быць унесеныя ў Закон аб мовах?

Таварыства беларускай мовы накіравала свае прапановы Старшыні Савета Рэспублікі Аляксандру Вайтовічу, намесніку Старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзіміру Канаплёву, старшыні парламенцкай камісіі Ігару Катлярову, членам дэпутацкай групы "Рэспубліка". Неабходнасць унясення змяненняў тлумачыцца тым, што пасля моўнага рэферэндуму дзяржава не зрабіла прыкметных захадаў па рэалізацыі выказаных грамадзянамі пажаданняў, галоўнае з якіх – забеспячэнне роўнасці беларускай і рускай моў у афіцыйным жыцці. У прыватнасці, справаводства дзяржаўнага апарату практычна цалкам вядзецца ра рускай мове. Тое ж можна сказаць пра вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. Вымушае жадаць лепшага становішча беларускай мовы на радыё, тэлебачанні, у кінематографе.

Паводле дадзеных ТБМ, колькасць вучняў у школах, якія працягваюць вучыцца па-беларуску, скарацілася з 75 працэнтаў у 1994/1995 навучальным годзе да 26,3 працэнта. Адпаведна скарацілася і падпіска на беларускамоўныя выданні. І гэта пры тым, што падчас апошняга перапісу насель-ніцтва 86 працэнтаў жыха-роў Беларусі назвалі беларускую мову сваёй роднай, а 37 працэнтаў засведчылі, што кожны дзень размаўляюць па-беларуску. І яшчэ некалькі лічбаў. Падчас тэлепраграмы "Выбар", прысвечанай будучыні беларускай мовы, з 26 тыс. прагаласаваўшых па тэлефоне 65 працэнтаў выказаліся ў падтрымку развіцця беларускай мовы.

### Спачатку эканоміка, потым мова?

Пракаментаваць магчымыя змены ў Закон аб мовах, а таксама расказаць аб сваім бачанні моўнай праблемы "Звязда" папрасіла старшыню Камісіі па адукацыі, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Ігара КАТЛЯРОВА.

**- Ці назіраецца сёння раўнапраўнае ўжыванне беларускай і рускай моў?**

- Гэта амаль што філасофскае пытанне, на якое вельмі цяжка адказаць канкрэтна. Сёння ў Беларусі склаліся аб'ектыўныя ўмовы, пры якіх руская мова з'яўляецца больш ужыванай, бо ёй карыстаецца большая частка насельніцтва. Мне неаднаразова прыходзілася праводзіць сацыялагічныя даследаванні: за дзве дзяржаўныя мовы ў краіне стала выказваюцца больш як чатыры пятыя насельніцтва. Большасць гаворыць менавіта па-руску. У той жа час у нас створаны ўсе ўмовы, каб кожны ахвотны мог карыстацца беларускай мовай. Але тое, што беларускую мову можна рэдка пачуць на вуліцы, гэта, безумоўна, недахоп.

**- Тым не менш, магчыма, ужыванне мовы патрэбна пачаць з "вярхоў"?**

- Я лічу, што кожны культурны чалавек у Беларусі павінен ведаць беларускую мову – без гэтага немагчыма інтэлектуальнае і культурнае развіццё краіны. Патрэбна стварыць аб'ектыўныя ўмовы, каб людзі былі зацікаўленыя ў валоданні сваёй нацыянальнай мовай. У той жа час прымушаць да гэтага неда-пушчальна.

*(Заканчэнне на ст. 2.)*

## 20 гадоў з дня памяці Ларысы Геніюш

*"Воляй цемру заменім на свет, верай з неба прыклічам цуд..."*



60 гадоў таму, "блукаючы па родным краю збалелым ценем", Ларыса Геніюш хацела "быць кропляй, што перапаўняе чару цярпення", прасілася: "быць тваім гордым, вечным успамінам, мая зямелька". Дваццаць гадоў мінае, як родная зэльвенская зямелька ўзяла на вечны спачын Ларысу Антонаўну – унучку Францішка Скарыны, альбо зэка № 0-387 (назоў Рыгора Барадуліна).

Новае пакаленне яе чытачоў і перайманьнікаў, нашчадкаў змагарнага духу ўвабралася за гэты час у сілу. Ларыса Геніюш засталася на слыху, у ідэёвым кантэксце, на літаратурніцкім мацерыку (згадаем выданне ў "Беларускім кнігазборы"; таксама рыхтуецца яе эпісталярная спадчына)

У маім "зэльвенскім архіве, які распачаўся ў ліпені 1968 года – фотаздымкі і магнітафонны запіс жывога голасу, пражскія слайды, ліставанне і дарчыя надпісы... Сабрана сотня публікацый: даследванні, рэцэнзіі, успаміны, водгукі, ася пра "Маці беларускую" (Любоў Тарасюк). Там жа – вялікая нізка вершаваных твораў А. Чэмера, М. Арочкі, М. Скоблы, М. Дуксы, Ю. Голуба, В.Куртаніч, С.Явар, А.Хатэнкі, У.Мазго і многіх іншых "крывіцкіх дзяцей"

"Людзі, цясней! Няхай сэрцы не спяць, з зямлі мы адной і з роду..." – запаведвала нам Ларыса Антонаўна. Думаецца: мо і знойдзецца выдавец, каб дапоўнены ахвотнікамі зэльвенскі архіў выдаць кнігаю "У ВЯНОК ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ".

А перад усім – згадаем 20-я ўгодкі памяці (7.4.1983) аб яе Прамяністым Сэрцы.

***Сяргей Панізьнік.***

### *Памяці Ларысы Геніюш*

Зніклі альвасы. І вата
жоўтая ў леташнім пыле,
і намагаецца хата
вокны расплюшчыць сляпыя.

Клямкі ніхто не падыме,
кветнік зарос лебядою.
Дзе ж ты пайшла, гаспадыня?
Сцежкаю поруч з бядою.

Вернецца словам ці нават
песняй ва ўмёрлыя душы.
Здзеклівы рогат Цанавы...
Вочы чужыя і вушы...

-- Людзі!
Я – вораг народу.
Не гаварэце са мною.
Зэльвенцы, мне ўзнагарода -
ваша нязгода з маною.

Жарты вясёлыя, досціп
іншай счакаюць нагоды.
Вас не паклічу я ў госці,
нельга – я вораг народу.

Нехта з-пад бэлек настояў
выкінуць памяць і зелле.
Пах чабаровых настояў
ноччу блукае па Зэльве...

***Міхась Скобла.***

### МОВА

Сьцішаным сэрцам я чую: бурліць
Нібы вясновыя воды,
Мова адвечная з родных крыніц,
Мова зямлі і народа!

Вякі падбіваюць, спыняюць яе
Чужацкія дзікія орды,
А мова – жывая, а мова пяе,
Гучыць яна ўпэўнена, горда!

Людзі, цясьней! Няхай сэрцы ня сьпяць,
Зь зямлі мы адной і з роду,

Змагацца з насільлем і мурам стаяць.
І быць нам народам, ня збродам!

Іду па Менску, нідзе свае мовы ня чую,
Можа, сьцішана б'ецца пад сэрцам яна?
Крывічам хочуць праўду падкінуць чужую,
Але ж праўда ў народа адвеку адна!

Ад народзін адну толькі ведаем маці,
Нашых продкаў сярмяжных ня зблытаць ні з кім.
Гаварэця ж, Браты, як сялянская Маці –
Беларусь, Маці нашая перад усім!

***Ларыса Геніюш.***

### Віншуем з днём народзінаў сяброў ТБМ, якія прыйшлі на свет у красавіку

Галіну Абакунчык
Валянціну Аксак
Андрэя Аляхновіча
Наталлю Брылеўскую
Марыю Вайцяховіч
Алену Валынец
Ірыну Вячорку
Тамару Гарэлікаву
Алесю Гоеўскую
Вадзіма Грыгаркевіча
Галіну Дзягілеву
Васіля Зуёнка
Кірылу Ільніцкага
Кастуся Кашэля
Канстанціна Кузьняцова
Міколу Лавіцкага
Віктара Ляшчова
Паўла Малічэўскага
Ірыну Марачкіну
Дзмітрыя Марчука
Яніну Пушкіну
Аду Райчонак
Алега Рудакова
Валеру Савіча
Людмілу Сільнову
Андрэя Статкевіча
Валянціну Сцянук
Алену Таболіч
Дзяніса Тушынскага
Уладзіміра Цярохіна
Ніку Шашкель
Паўла Яловіка

# Прапановы

## *Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" па ўдасканаленні Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь*

### *ГЛАВА 1.*
### *Агульныя палажэнні*

***Артыкул 1. Мэты заканадаўства аб мовах у Рэспубліцы Беларусь***

*Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб мовах мае на мэце ўрэгуляванне адносін у галіне развіцця і ўжывання беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі ў дзяржаўным, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці, ахову канстытуцыйных правоў грамадзян у гэтай сферы, выхаванне паважлівых адносін да нацыянальнай годнасці чалавека, яго культуры і мовы, далейшае ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва народаў.*

**Дзяржава вызнае талерантнасць да дзяржаўных моў і моў іншых нацыянальных супольнасцяў, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.**

**У Рэспубліцы Беларусь не дазваляецца дыскрымінацыя па моўнай прыкмеце. Публічнае знясла ўленне дзяржаўных і іншых нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва Рэспублікі Беларусь, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі цягне за сабой адміністрацыйнае і крымінальнае пакаранне ў адпаведнасці з заканадаўствам.**

**Каментар:** Артыкул $172^{2}$ КОДЭКСА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ ПРАВАПАРУШЭННЯХ (гл. дадатак №1) прадугледжвае прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці, але механізм рэалізацыі гэтага артыкула недазваляе рэальна прыцягнуць да адказнасці службовых асоб, якія зневажаюць, або ствараюць перашкоды і абмежаванні ў выкарыстанні дзяржаўных і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва краіны.

**Заўвага:** У прэамбуле варта ўказаць на "кампесаторную" скіраванасць Закона (абарона мінарытарных моў - асноўны стымул для прыняцця законаў аб мовах ва ўсім свеце!).

***Артыкул 3. Права грамадзян карыстацца іх нацыянальнай мовай***

*Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Ім гарантуецца таксама права звяртацца ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове.*

*Рашэнне па сутнасці звароту афармляецца* **ў адпаведнасці з мовай запыту** *на беларускай ці рускай мове* **або іншай прымальнай для бакоў мове.**

**Каментар:** Сённяшняя практыка сведчыць пра тое, што нягледзячы на настойлівыя пісьмовыя і вусныя просьбы грамадзян даваць адказы на беларускай мове (мове запыту ці звароту), як правіла дзяржаўныя чыноўнікі даюць адказы па-руску, аргументуючы тым, што яны маюць права выбару мовы адказу.

***Артыкул 4. Абавязак кіраўнікоў, іншых работнікаў дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў валодаць беларускай і рускай мовамі***

*Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў* **абавязкова** *павінны* **аднолькава добра** *валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў,* **весці прыём грамадзян, даваць адказы, разглядаць скаргі на мове пісьмовага або вуснага звароту.**

### *ГЛАВА 2.*
### *Мова дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў*

***Артыкул 7. Мова актаў*** **заканадаўства, іншых прававых актаў**

*Акты* **заканадаўства і іншыя прававыя акты** *Рэспублікі Беларусь прымаюцца і публікуюцца* **адначасова на** *беларускай* **і** *рускай мовах.*

*Акты* **заканадаўства і іншыя прававыя акты** *прымаюцца і публікуюцца* **адначасова на** *на беларускай* **і** *рускай мовах, а пры неабходнасці — і на нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.*

**Каментар:** У парламенцкай газеце "Звязда" неаднаразова падымалася пытанне пра тое, што законы Рэспублікі Беларусь, прынятыя толькі на рускай мове, не маюць юрыдычнай сілы ў перакладзе на дзяржаўную беларускую мову.

***Артыкул 8. Мова справаводства і дакументацыі***

*У Рэспубліцы Беларусь мовамі справаводства і дакументацыі, а таксама мовамі ўзаемаадносін дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў з'яўляецца беларуская* **і** *руская мовы.*

*Тэксты на пячатках, штампах, штэмпелях, фармулярах, афіцыйных бланках дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў выконваюцца на беларускай, а пры* **неабходнасці і на** *рускай мовах.*

***Артыкул 10. Мова дакументаў аб статусе грамадзян Рэспублікі Беларусь***

*Афіцыйныя дакументы, якія сведчаць статус грамадзяніна, — пашпарт, працоўная кніжка,* **картка персаніфікаванага ўліку**, *дакументы аб адукацыі, пасведчанні аб нараджэнні, шлюбе, а таксама дакументы аб смерці асобы выконваюцца на беларускай* **і** *рускай мовах, а асобныя дакументы пры неабходнасці* **і на іншай мове**.

**Каментар:** З 1 студзеня 2003 года Міністэрствам сацыяльнай абароны распачата праграма па персаніфікаванаму (індывідуальнаму) уліку працуючых грамадзян і пенсіянераў. Уся дакументацыя і карткі персаніфікаванага ўліку будуць выдавацца грамадзянам толькі на рускай мове. Фонд сацыяльнай абароны матывуе гэта тым, што ў іх камп'ютэры не падтрымліваюць беларускую мову, а Закон аб мовах не абавязвае іх рабіць карткі на беларускай мове. Хаця зыходная інфармацыя для арганізацыі персаніфікаванага ўліку падаецца з пашартных сталоў на трох мовах: беларускай, рускай і англійскай.

***Артыкул 11. Мова з'ездаў, канферэнцый і іншых форумаў***

*У Рэспубліцы Беларусь рабочымі мовамі з'ездаў, сесій, канферэнцый, пленумаў, пасяджэнняў, нарадаў, іншых сходаў з'яўляюцца беларуская* **і** *руская мовы.*

*Рабочай мовай міжнародных сходаў і форумаў, якія праводзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца мова, вызначаная ўдзельнікамі сходу ці форуму.*

*Удзельнікам мясцовых, рэспубліканскіх і міжнародных сходаў і форумаў гарантуецца права выбіраць мову выступленняў з забеспячэннем перакладу на рабочую мову.*

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Ці будуць унесеныя змяненні ў закон аб мовах?

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

У свой час у камісіі па правах чалавека і нацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета мы паспрабавалі распрацаваць сістэмную канцэпцыю заканадаўчага забеспячэння развіцця беларускай мовы. Яна прадугледжвала матэрыяльныя стымулы, ідэалагічную работу, прынясце шэрагу законапраектаў. На жаль, гэта прапанова не знайшла падтрымкі.

**- Што вы разумееце пад аб'ектыўнымі ўмовамі?**

- Пачнём з таго, што хацелася б, каб чалавек, які выхоўваецца ў дзіцячым садку і размаўляе на беларускай мове, пайшоў у беларускую школу. Потым, каб ён усё жыццё размаўляў менавіта на беларускай мове. У нас атрымліваецца зусім іншая сітуацыя. У дзіцячым садку чалавек размаўляе на беларускай мове, а потым стала размаўляць на ёй не можа.

**- Наколькі я ведаю. Вы рыхтуеце змены ў Закон аб мовах.**

- Цяпер цэлы шэраг суб'ектаў, у прыватнасці, Таварыства беларускай мовы, прапануе змяненні ў Закон аб мовах. На гэтым тыдні мы ў камісіі вырашылі выкарыстаць разумныя прапановы Таварыства беларускай мовы, свае напрацоўкі, заўвагі настаўнікаў, дзеячоў культуры, пісьменнікаў, абагульніць іх і распрацаваць праект змяненняў у Закон. Дарэчы, цяперашні Закон даволі дэмакратычны. Але Закон – заўсёды кампраміс. Ён прымаўся адразу пасля рэферэндуму. Таму цяпер ёсць дастаткова цікавых, правільных прапаноў, якія, безумоўна, трэба вынесці на разгляд парламенту. Акрамя таго, нам паступіў і шэраг прапаноў, якія недапушчальныя ў цяперашні час.

**- Якія прапановы вы падтрымліваеце, а якія не?**

- Калі грамдзянін Беларусі звярнуўся ў дзяржаўныя органы з заявай на беларускай мове, адказ ён павінен атрымаць менавіта на гэтай жа мове. З гэтай прапановай Таварыства беларускай мовы я цалкам згодны. У свой час мы вырашылі, што ўсе геаграфічныя назвы павінны запісвацца на беларускай мове. Гэта было ўспрынята нармальна. Верагодна, што і надпісы на аўтобусах, на цэнніках павінны быць таксама на беларускай мове. Аднак зрабіць жыццяздольнымі некаторыя прапановы з-за наяўнасці эканамічных праблем немагчыма. Напрыклад, у адной са школ майго рэгіёна ў 11 класе вучацца толькі два чалавекі. Адзін жадае вучыцца на беларускай мове, другі – на рускай. Нам што – раздзяляць клас? У нас і так хапае праблем: не можам купіць камп'ютар і г.д. Магчыма, праз пэўны прамежак часу, калі будуць вырашаны эканамічныя праблемы, перадумовы для вырашэння шэрагу іншых моўных праблем усё ж такі будуць створаны. Таксама я не падтрымліваю прапанову аб тым, што ўсе гуманітарныя дысцыпліны павінны выкладацца на беларускай мове.

**- Парламент прымае законы, за рэдкім выключэннем, на рускай мове. Адна з паправак у Закон "Аб Нацыянальным сходзе РБ", якія рыхтуюцца да прыняцця ў другім чытанні, датычыцца накіравання законаў у парламент на дзвюх мовах. Ці будзе гэта папраўка ўлічаная?**

- Мы не супраць прапановы, каб усе законы ўносіліся і на рускай, і на беларускай мовах. Аднак тут адразу ўзнікае праблема: патрэбны цэлы штаб перакладчыкаў у парламенце, міністэрствах, ведамствах. Напрыклад, толькі ў Палаце прадстаўнікоў неабходна было б павялічыць штат на 12 чалавек. Афіцыйны пераклад патрабуе зусім іншай структуры. Мы абмяркоўвалі пытанне на Савеце Палаты прадстаўнікоў. Улічвалася тое, што трэба затраціць шмат сродкаў, якія можна накіраваць на вырашэнне эканамічных, культурных праблем. Гэта стала асноўнай прычынай таго, што мы палічылі за лепшае пакуль не ўносіць змяненні ў рэгламент, якія датычацца прадстаўлення ў парламент законаў на дзвюх мовах. Хаця, у прынцыпе, калі б былі адпаведныя эканамічныя ўмовы, упэўнены, што 99 працэнтаў дэпутатаў падтрымалі б гэтую прапанову.

**- Калі вы збіраецеся ўнесці законапраект на разгляд?**

- Спадзяюся, што праект будзе падрыхтаваны да першага чытання недзе напрыканцы гэтай сесіі.

**- Як вы ставіцеся да стварэння беларускага нацыянальнага універсітэта?**

- У цэлым я стаўлюся да гэтага станоўча. Але я прапаноўваю спачатку стварыць прыватны нацыянальны універсітэт. Калі ўсё будзе добра: прыйдуць людзі, будуць выкладчыкі, - праз два-тры гады можна надаць універсітэту статус дзяржаўнага, дзе ўсе дысцыпліны будуць выкладацца толькі на беларускай мове. Сёння ж мы нават не маем уяўлення, хто там будзе вучыцца і выкладаць.

## Як не абмежаваць правы?

Прапановы ТБМ разглядзелі і ў Савеце Рэспублікі. У прыватнасці, экспертна-прававому ўпраўленню было даручана падрыхтаваць даведку па гэтых прапановах. Як адзначыў у размове з карэспандэнтам "Звязды" старшыня верхняй палаты беларускага парламенту Аляксандр Вайтовіч, асобныя прапановы Таварыства маюць права на жыццё, іншыя прыняць немагчыма. У прыватнасці, да апошніх можна аднесці тую, згодна з якой грамадскія арганізацыі павінны карыстацца толькі беларускай мовай. ***"Гэта будзе антыканстытуцыйна, - паведаміў*** А. Вайтовіч, ***- у нас дзве дзяржаўныя мовы. Грамадская арганізацыя мае права выбраць любую. Тым больш, што ў асобных грамадскіх арганізацыях могуць увогуле быць толькі рускія па-нацыянальнасці"***

Што ж датычыцца прапаноў па прымяненні беларускай мовы ў рабоце дзяржаўных органаў, то гэта разумна. ***"Я лічу, - адзначыў Старшыня Савета Рэспублікі, - калі грамадзянін звяртаецца ў дзяржаўны орган на беларускай мове, адказ ён павінен атрымліваць таксама на ёй. Гэта права грамадзяніна – карыстацца той мовай, якой ён жадае. Дзяржаўны орган тут абслуговы".*** Па гэтай пазіцыі, як бачна, погляды прадстаўнікоў палат парламенту супадаюць.

А вось наконт прыняцця законапраектаў, у тым ліку і на беларускай мове, А. Вайтовіч заявіў наступнае: ***"Мая цвёрдая пазіцыя заключаецца ў тым, што законы павінны прымацца заканадаўчым органам улады адразу на дзвюх дзяржаўных мовах. Прыняцце на адной дзяржаўнай мове ўшчамляе канстытуцыйныя правы грамадзян. Напрыклад, у судзе разглядаецца нейкае пытанне. Грамадзянін валодае беларускай мовай і хоча, каб пасяджэнне таксама вялося на беларускай мове. Гэта яго канстытуцыйнае права. Аднак закона на беларускай мове мы не маем. Суддзя, такім чынам, не зможа весці працэс на беларускай мове. Нават калі і існуе пераклад, ён не будзе мець сілы афіцыйнага заканадаўчага акта".***

Аб рашэнні Савета Палаты прадстаўнікоў, аб якім паведаміў нашай газеце І. Катляроў, А. Вайтовіч даведаўся непасрэдна ад карэспандэнта "Звязды". Паводле яго слоў, ***"падчас мінулай сесіі прэзідыюм Савета Палаты прадстаўнікоў разглядаў гэтае пытанне і пакідаў пункт аб прыняцці законаў на дзвюх мовах. Гэта я чую ўпершыню. Наконт павелічэння расходаў. Ніякіх асаблівых расходаў тут няма. Асноўныя расходы ідуць на паперу.***

***Якія яшчэ расходы? Калі ёсць экспертна-прававое ўпраўленне ў Палаце прадстаўнікоў, то там знаходзяцца дзяржаўныя чыноўнікі. А дзяржаўны чыноўнік павінен ведаць дзве дзяржаўныя мовы. І яму павінна быць без розніцы, на якой мове распрацоўваць закон. Гэта яго абавязак.***

***Калі мы зноў пойдзем на тое, каб абмяжоўваць прымяненне беларускай мовы падчас заканадаўчай работы, фактычна гэта будзе абмежаванне канстытуцыйных правоў грамадзян".***

*Сяргей Каралевіч.*





# Вільня святкуе ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі

## ЗА НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ!

### 85–ты юбілейны год

*Ужо сонейка заззяла*
*Над зямлёю Беларусі...*
*Снегу засталося мала,*
*Вылятаюць з поўдня гусі...*
*Хоць жывём і небагата*
*Сустракаем дружна СВЯТА!*
*Так, як і ўсе народы,*
*Адзначаем дзень СВАБОДЫ!*

У кожнага народа бываюць даты асабліва важных падзеяў, таkіх здарэнняў, якія вызначаюць на доўгі час іх гістарычны шлях. Да такіх належыць юбілейны год абвяшчэння незалежнасці Беларускай Дзяржавы, якое адбылося 85 гадоў таму назад.

Не гледзячы на гвалтоўную акупацыю нашага краю суседскімі імперыямі, разбуджаны народ не выракся свае светлай ідэі свабоды, дзяржаўнай незалежнасці.

Пасля цяжкай барацьбы, неаднаразовых паўстанняў, Беларусь дачакалася свае дзяржаўнай незалежнасці. Збыліся словы Янкі Купалы: "Зацвіце наш край як сонца, пасля непагоды!..."

Дзень 25 сакавіка кожны год урачыста адзначаюць усе згуртаванні беларусаў нашай супольнай планеты. Наш нацыянальны сцяг уздымаецца не толькі ў Еўропе, але і Аўстраліі, Азіі, Афрыцы... Святкуюць 85 год абвяшчэння Незалежнасці беларусы Англіі, Балгарыі, Аргентыны, Канады, ЗША, Польшчы, Скандынавіі, Францыі, Нямеччыны, Расіі, Украіны і дзесяткаў іншых дзяржаваў! Ідэя незалежнасці, вызвалення ад акупацыі – вечная!...

Зразумела, што юбілей урачыста адзначылі і беларусы Летувы. Як жа гэта адбылася ў калысцы беларускай культуры – Вільні?

Асноўная маса беларускай грамадскасці не толькі Віленшчыны але і ўсёй Летувы – належыць (прынамеі ідэёва) да Згуртавання Беларускіх Суполак. На II з'ездзе Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый Летувы прысутнічала каля сотні дэлегатаў з 17-ці зарэгістраваных дзейных беларускіх суполак, якія прадстаўляюць каля тысячы актыўных беларускіх патрыётаў. Усе мы урачыста адзначаем галоўныя нацыянальныя святы беларускага народа, а ў першую чаргу абвяшчэнне Беларусі Незалежнай Дзяржавай!

У вызначаны дзень, да 15-тай гадзіны зала была запоўнена да паошняга месца. Сцяну эстрады ўпрыгожвалі нацыянальныя сцягі Летувы і старажытнай Беларусі, велізарныя сіне-блакітныя куртыны з бліскучымі зорамі ўверсе. На дадзены знак Прэзідэнта Згуртавання гучна і ўрачыста загрымеў нацыянальны гімн, усталі ўсе прысутныя, засьлязіліся вочы многіх сярод іх.

Праграму вяла настаўніца Віленскай беларускай гімназіі імя Скарыны – Валянціна Іванова. У прывітанні прысутных. Прэзідэнт Леанід Мурашка падкрэсліў глыбокія традыцыі беларускага народа, які ў мінуўшчыне быў цэнтральнай сілай Вялікага Княства Літоўскага.

Успамінаючы вялікасць тагачаснай дзяржавы, сп. Мурашка падкрэсліў, што, "не гледзячы на пазнейшую страту палітычнай незалежнасці, наш народ ніколі не адракаўся ад свабоды свайго краю. Ідэя незалежнасці не згасала нават у самыя жорсткія гады акупацыі усходніх і заходніх імперыяў. Як пуцяводная зорка, гэтая ідэя, натуральнае імкненне да свабоды – прывяло нас нарэшце да незалежнасці народу, хоць і з вялікімі стратамі.

Адраджэнне народа адбываецца на вачах і захапляе ўсе пласты нацыі. Вось гэта нас і цешыць, дае абгрунтаваную, рэальную надзею на канчатковае ўмацаванне нашай НЕЗАЛЕЖНАСЦІ на векі-вечныя. Нашае сёняшняе святкаванне не адзінае і не апошняе, -

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!..."

Пасля афіцыяйнай часткі, выбеглі на сцэну дзяўчаткі Віленскай беларускай школы імя Францішка Скарыны, - хор з акампаніментам кіраўнічкі – салісткі Валянціны Кавальчук. Гэты дасведчаны ансамбль, з падмацаваннем хору "Сябрыны" дабіўся добрых вынікаў і быў цёпла прыняты публікай. Галасістыя гімназісткі старэйшых класаў даюць надзею на іх персанальную салістскую будучыню, хоць для гэтага патрэбна нямала працы.

Пасля гэтага ансамбля, выбеглі на сцэну прыгожа апранутыя артысты памежнага горада Вісагінаса. Маладыя дзяўчаты і дарослыя жанчыны, і некалькі зусім дасьпелых дзяцюкоў сваімі нацыянальнымі ўборамі і жыццярадаснасцю адразу заваявалі сімпатыі залы.

Зрэшта гэты працавіты аксамбль выступаў ў Вільні і на конкурсных канцэртах у іншых гарадах, даўно дабіўся "высокага іміджу" і прэзентуецца ўпэўнена. Пад акампанемент баяна, цымбалаў ды іншых інструментаў, палылі родныя, душэўныя песні. Больш дваццаці артыстаў цалкам занялі сцэну, аднак патрапілі выканаць гумарыстычныя і танцавальныя сцэнкі і прыпеўкі, ў цэлым, багаты музычна-спеўны набор узрушыў слухачоў да глыбіні душы.

Адна за другою чаргаваліся народныя, сумныя і гумарыстычныя песні і прыпеўкі. Зала то замірала, то ўзрывалася бурай апладысментаў і здавалася ім не будзе канца...

Выбухі рогату і воплескаў выклікалі песні "Чаму ж замуж ты не йдзеш?" "Касіў Ясь канюшыну", "Дзе я дзевачку пачую – там і заначую.." ды іншыя... Але найбольш (да слёз) узрушылі публіку песні "Братка беларус" і "Беларусь мая". Глыбокі і непарыўны боль згартаў душу, слухаючы пад прыгожую мелодыю нядолю пакрыўджанага селяніна ды і ўсяго народа.

Заслужаным выканаўцам былі ўручаны падарункі і многа кветак. Нямала добрых слоў заслужылі і кіраўнік Вісагінскага культурнага цэнтра – Алег Дывідзюк і кіраўнік хору – Людміла Віткоўская. Як кажуць людзі "Спары Божа!...

*А. Сцяпанаў.*

## Фотарэпартаж Алега Трусава са свята 85-х угодкаў БНР у ТБК у Вільні









**На здымках:**

1. Сядзіба Таварыства беларускай культуры ў Вільні;
2. Выступае старшыня ТБК Хведар Нюнька;
3. Выступае Павел Саўчанка;
4. Выступае Зянон Пазьняк;
5. Сябры Рады ТБМ, сябры Рэдкалегіі газеты "Наша слова" выкладчык Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта, прафесар Аляксей Пяткевіч і настаўніца Віленскай беларускай школы імя Францішка Скарыны, карэспандэнт "Нашага слова" ў Вільні Леакадзія Мілаш.



# Жыві наша "Скарбніца"



28 сакавіка 2003 года ў нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адкрылася новая арыгінальная выстава "Скарбніца", якую прадставіла рэспубліканскае прадпрыемства народных рамёстваў "Скарбніца", што створана яшчэ ў 1976 годзе пастановай тагачаснага ўрада краіны. Перад прысутнымі выступіла Сініца Ірына Ібрагімаўна, якая распавяла наконт ідэй, спраў і перспектываў развіцця прадпрыемства, якое пакуль не ведаюць на Захадзе, бо установа не мае адрасу ў Інтэрнэце, аднак плённа спецыялізуецца па сцэнічных і народных касцюмах, аздабленні інтэр'ераў у нацыянальным стылі, роспісу шкла і дрэва, вырабляе ўнікальныя дэкаратыўныя кампазіцыі з саломкі, апплікацыі з яе... Ідэі прадпрыемства больш дэталёва і падрабязна агучыла навуковы супрацоўнік прадпрыемства Наталля Барышава. Мерапрыемства выклікала вялікую цікавасць асабліва сярод прыгожай паловы чалавецтва... На адкрыццё выставы прыйшлі студэнты, аспіранты, журналісты, прадстаўнікі творчых установаў сталіцы – яе эліта. Гучалі беларускія спевы...

*Аляксей Шалахоўскі.*

# "Ніва", як сродак далучэння беларусаў беларуска-польскага сумежжа да этнакультуры гістарычнай радзімы

"Ніва" – тыднёвік беларусаў у Польшчы, выпускі якога чытаюць не толькі беларусы ў Польшчы, але і беларусы, якія жывуць на тэрыторыі беларуска-польскага сумежжа.

Названая акалічнасць вызначае змест публікацый, аснову якіх складае выразна беларуская этнакультурная скіраванасць. Зразумела, з улікам таго, што беларусы ў Польшчы і беларусы, якія пражываюць на тэрыторыі польска-беларускага прыгранічча, з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Польшчы, а беларусы, якія жывуць на тэрыторыі беларуска-польскага прыгранічча-грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

Этнакультурная скіраванасць дзейнасці "Нівы" вынікае з канцэпцыі этнакультуры як культуры этнасу, што з'яўляецца самабытнай, непаўторнай, як і сам этнас. З усведамлення значнасці этнакулльтуры ў станаўленні чалавека як асобы, што можа адбыцца толькі ў сваім этнічным асяроддзі – матэрыяльным, духоўным і сацыяльным. З усведамлення значнасці этнакультуры для фармавання дзіцяці як асобы, якая расце і якая свядома ці неўсвядомлена засвойваючы або не прымаючы пэўныя этнакультурныя якасці, пазнае, асэнсоўвае сацыяльна-грамадскія адносіны і адначасова ўдасканальвае свой унутраны свет, свядомасць і самасвядомасць, здуменне, сваю мову і маўленне, развівае інтэлект.

Менавіта дасведчанасць, веданне нацыянальных традыцый, якія сфармаваліся ў этнічнай супольнасці, узяўшы свае вытокі з глыбокай старажытнасці і вызначыўшы беларусаў як самабытны этнас, праяўляюцца ў індывіда праз сацыяльныя сувязі на ўзроўні сацыяльных паводзін і маральна-этычных якасцяў і ў выніку вызначаюць характар уваходжання індывіда ў этнакультурнае асяроддзе.

Этнакулльтурная скіраванасць пастаянна трымаецца на ўвазе ўсімі супрацоўнікамі тыднёвіка "Ніва", пачынаючы з праграмнай рады (старшыня Яўген Мірановіч), рэдакцыйнай калегіі (галоўны рэдактар Віталь Луба), вучымі (Антон Мірановіч), такімі вядучымі журналістамі-публіцыстамі, як Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Часуга, Паўліна Шафран, і заканчваючы вядомымі беларускімі пісьменнікамі. Дзейнасць тыднёвіка ва ўмовах дзяржаўнасці польскай мовы ў Рэспубліцы Польшча забяспечваецца выключна на беларускай мове, якая, як і кожная мова свету, з'яўляецца не толькі формай, але і ўмовай існавання, бытавання нацыянальнай культуры.

Праведзены аналіз выпускаў тыднёвіка "Ніва" за два апошнія гады выявіў, што праблема далучэння да этнакультуры беларусаў у Польшчы і беларусаў, якія жывуць на тэрыторыі сваёй гістарычнай радзімы і па-за яе межамі ("Ніву" чытаюць беларусы ва ўсім свеце), з'яўляецца для тыднёвіка адной з прыярытэтных у сістэме фармавання, развіцця і ўдасканалення этнічна-нацыянальнай годнасці. Рэалізацыі гэтай праблемы падпарадкаваны практычна ўсе апублікаваныя матэрыялы, за выключэннем хіба толькі матэрыялаў спецыфічна "мясцовых", напрыклад, такіх, якія звязаны з добраўпарадкаваннем жылля, з наладжваннем бытавых умоў жыцця насельнікаў вёсак, мястэчак, гарадоў, з працай радных войтаў, ваяводаў з сацыяльна-грамадскім жыццём у гмінах, паветах, ваяводствах.

Пры гэтым этнакультурныя паводле зместу матэрыялы датычаць самых розных аспектаў праблемы, з ліку якіх найбольшая ўвага надаецца адраджэнню беларускай мовы, як і мовы і формы існавання этнічнай культуры: у выпусках змяшчаюцца экспрэс-аналізы навучання беларускай мове ў школах, гімназіях, ліцэях і ў вышэйшых навучальных установах. Гл. пра гэта: А. Мароз "Экзамены і што далей" (2001, № 43); М. Вараўнюк "Надзея Дубіч-Царкоўных" (2001, № 37); Д.Дудзіч, А.Лапінская "Мае дзеці дасканала валодаюць беларускай мовай" (2002, № 6), Аляксей Мароз "З Максімам Танкам" (2002, № 6 і інш.

Як складовую частку праблемы разглядаюць у "Ніве" вяртанне беларусаў паводле паходжання ў сваё этнакультурнае гістарычнае асяроддзе народных традыцый, абрадаў і рытуалаў, паколькі яны, гэтыя традыцыі, абрады і рытуалы, стаўшы традыцыйнымі ў тым ці іншым сацыяльна-грамадскім асяроддзі людзей, дадатна ўплываюць на станаўленне, развіццё чалавека як асобы, на ўдасканаленне яго камунікатыўных здольнасцяў, этычных нормаў паводзін і маральных эталонаў. Прычым матэрыялам такім адводзіцца ў тыднёвіку дастаткова значнае месца – адна і больш старонак. Як правіла, з розных гмінаў і паветаў Беластоцкага, Падляшскага і іншых ваяводстваў. Гл. пра гэта: Я.Целушэцкі. "Публіка спявала з калядоўшчыкамі", А.Мароз. "З малітвамі і калядкамі", А.Чачура. "Вашыя і нашыя" (2002, № 6), А Мароз "Фэст з нагоды юбілеяў" (2002, № 34) і інш.

Вяртанню ў этнакультурнае гістарычнае асяроддзе дапамагаюць, як цвёрда перакананы ніваўцы і чытачы, рэгулярна практыкаваныя рубрыкі-матэрыялы пра вялікіх беларускіх пісьменнікаў, пра знаных дзеячоў-беларусаў і дзеячоў-палякаў на ніве этна-беларушчыны. Будучы цікавымі па змесце і патрыятычна скіраванымі такія матэрыялы забяспечваюць сувязь паміж былым, сучаснасцю і будучыняй. Гл. пра гэта: Я.Лецка "Жаўруковы спеў Уладзіміра Мулявіна" (2003, № 6).

У выніку розных гістарычных працэсаў такія публікацыі нясуць адбітак узаемных уплываў этнічных асяроддзяў, якія існуюць у свеце, што скіроўвае носьбітаў рэгіянальных этнакультур, як і іх карыстальнікаў на думку аб неабходнасці ведаць, акрамя сваёй культуры іншыя нацыянальныя культуры, бо яны ўзбагачаюць чалавека духоўна, маральна. Асабліва прыймальным з'яўляецца тое, што за пачатак бярэцца этнаміналае, этнагістарычнае, карані якіх узыходзяць да часоў сярэдневечча, да ўзнікнення беларускай прадзяржавы – Полацкага княства і Вялікага княства Літоўскага. Гл. пра гэта: Пад рубрыкай "Адкуль наш род" артыкулы У.Арлова. "Ян Кароль Хадкевіч" (1560-1621) (2002, №9), "Мікалай Гусоўскі" (2001, № 36), "Вынаходнік Казімір Семяновіч" (2002, №23), "Кастусь Каліноўскі" (2003, № 6.

У большасці выпадкаў аснову такіх матэрыялаў складаюць звесткі пра гістарычных сусветна вядомых асоб, карані якіх узыходзяць да гістарычнай радзімы – Беларусі. Расказваючы пра такіх людзей, тыднёвік "Ніва" выкарыстоўвае і афіцыйныя публікацыі беларускай хронікі, асаблівую ўвагу звяртаючы на іх уклад у сусветную культуру. Напрыклад, публікацыя пра ўраджэнца Карэліцкага раёна, беларуса па паходжанні Ігната Дамейку, паплечніка і сябра Адама Міцкевіча, дае магчымасць пранікнуцца гонарам за сваіх гістарычных продкаў, лёс аднаго з якіх цесна звязаны з Польшчай, Літвой, Францыяй, асабліва з Чылі. У публікацыі пра падрыхтоўку да яго 200-годдзя беларусы ў Польшчы і беларусы свету яшчэ раз даведаліся пра тое, што І. Дамейка – нацыянальны герой Чылі, яго імем названы горад, пасёлак, універсітэт, нацыянальная бібліятэка ў Сант'яга. На радзіме, у Карэліцкім раёне створаны музей. Гл. пра гэта: Пад рубрыкай "Беларусь – беларусы" артыкул П. Латушкі "Аб 200-годдзі з дня нараджэння Ігнація Дамейкі" (2002, № 13).

Беларусы ў Польшчы і беларусы, якія жывуць на тэрыторыі беларуска-польскага і польска-беларускага сумежжаў атрымліваюць магчымасць пранікнуцца гонарам за сваіх гістарычных продкаў, знаных на ўвесь свет вялікіх беларусаў – Я.Купалу, Я.Коласа. У "Ніве" змешчаны многія матэрыялы, у якіх, акрамя агульнавядомых фактаў, друкуюцца невядомыя факты з адваротнага боку жыцця, бо іх біяграфіі і творы ішлі адной складанай дарогай жыцця краіны. Гл. пра гэта шмат артыкулаў Т. Лаўрэнчук, такія, напрыклад, як "Летапіс працоўнага шляху" (2002, № 15), "Мая сама вярнейша дружка..." (2002, № 17), "Невычэрпная крыніца Купалава слова" (2002, № 21), "...А песню ўсе яго пяюць" (2002, № 24), "Купала і Колас" (2002, №26), "Колас – настаўнік" (2002, №36), а таксама артыкул М. Лукшы "Колас загаварыў па-польску" (2002, № 16).

Этнакультуры і мове, як умове і форме існавання нацыянальнай культуры належыць першасная роля ў нацыянальнай ідэнтыфікацыі індывідаў, якія, каб стаць асобай, павінны праяўляць павагу да іншых нацыянальных культур, успрымаць іх самакаштоўнасць і унікальнасць. Пры гэтым разуменне, засваенне іншых культур павінна адбывацца, як вядома, на аснове культывавання нацыянальных культур у свеце. Выразна ўсведамляючы гэту вядомую філасофскую ісціну, ніваўцы, заклапочаныя станам нацыянальнага адраджэння і развіцця культуры беларусаў, якія жывуць у Польшчы і на тэрыторыі польска-беларускага прыгранічча, імкнуцца як мага паўней раскрываць гістарычныя сувязі беларускага народа на ўзроўні блізкароднасных этнакультур. Пераважна беларускай і польскай, знаходзячы для гэтых мэт гістарычныя этнакантакты, якія найбольш выразна выяўлялі сябе праз дзейнасць сусветна вядомых беларусаў і палякаў на ніве беларускай і польскай культур. Прычым, у поле зроку заўсёды трапляюць нацыянальныя постаці, якія пры іх сусветнай вядомасці мелі, маюць і будуць мець адносіны, як да беларускай, так і да польскай нацыянальнай культур. Ушаноўваюць славутага Міхала Клеафаса Агінскага (11765-1833), які нарадзіўся ў Гузаве каля Варшавы, дзе ён жыў працяглы час, складаючы свае сусветна вядомыя музычныя творы. З яго імем звязаны Варшава, Слонім, Смаргонь, Флярэнцыя. Удзячныя нашчадкі-беларусы, паведамляе "Ніва" ў горадзе Маладзечна 1 верасня 2001 года адкрылі яму помнік. Гл. пра гэта: С.Чыгрын. "Ушанавалі славутага Агінскага" (2001, №39).

Сімвалам самаахвярнасці ў справе беззапаветнага служэння нашай Бацькаўшчыне, сімвалам цнатлівасці і маральнай чысціні з'яўляюцца такія дзеячы культуры, як выдатны беларускі гісторык Мікола Улашчык і славутая паэтэса Ларыса Геніюш, якім у музеі выяўленчага мастацтва (Фонд Анатоля Белага, у г. Старыя Дарогі) пастаўлены помнікі. На шыльдзе Міколы Улашчыка напісаны словы з яго любімага верша Ларысы Геніюш. "Як жыць – дык жыць для Беларусі, а без яе – зусім ня жыць". Гл. пра гэта: Анатоль Белы "Помнік Улашчыку" (2002, № 31).

Сфармаваць асобу з гуманным стылем здумення і моўных паводзін- задача, якую моджна вырашыць ва ўмовах нацыянальнай школы, заснаванай на этнапсіхалогіі і этнакультуры. Гэта бясспрэчная ісціна вынікае з таго, што беларускі народ, як і кожны іншы народ свету, застацца самім сабою, калі будзе забяспечана засваенне яго нацыянальнай культуры і сапраўднай гісторыі Беларусі.

У гэтым сэнсе чытаем добрыя словы У. Казберука (2002, №"1) пра "Гісторыю Беларусі" Яўгена Мірановіча, які ў сваёй кнізе імкнецца ўсе звесткі падаваць аб'ектыўна, праўдзіва. Водгукі на некаторыя публікацыі тыднёвіка "Ніва" даюць многія з яго чытачоў. Напрыклад, В.Грыцкевіч, Старшыня Рады БГКТ у Санкт-Пецярбургу піша: "Прыемна адчуваць талерантнасць рэдакцыі ў асвятленні дзейнасці беларускіх суполак рознага кірунку, у асвятленні розных поглядаў" (2003, №1).

Тыднёвік "Ніва" стварае шанц набліжэння культуры беларусаў Польшчы да нацыянальнай культуры беларусаў, якія жывуць на Беларусі і па-за яе межамі, актыўна папулярызуючы тыя каштоўнасці, якія складаюць нацыянальную спадчыну абодвух народаў. Важную ролю тут адыгрываюць матэрыялы, якія асвятляюць працу з моладдзю, правядзенне алімпіяд па беларускай мове. Пра адну зд такіх алімпіяд чытаем у артыкуле "У Аб'яднанні Польшча-Беларусь" (2002, №39): "Самі алімпіяды прыносяць карысць не толькі ўдзельнікам. Такім шляхам даходзяць веды пра беларускую культуру таксама да шырэйшых кругоў польскай грамадскасці, спрыяючы фармаванню талерантных адносін маладога пакалення палякаў да іншых нацыянальнасцяў. У правядзенні алімпіяды прымалі ўдзел настаўнікі і дырэктары з Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі і навуковыя супрацоўнікі.

Кафедры беларусістыкі Варшаўскага універсітэта з яе кіраўніком, старшынём Галоўнага камітэта АБМ прафесарам Аляксандрам Баршчэўскім, узнагароджаным віншавальным лістом за сваю дзейнасць міністра нацыянальнай адукацыі. Ранг гэтай імпрэзы дадаткова ўзмацняе факт урачыстага падсумавання вынікаў большасці яе выпускаў, пры ўдзеле прадстаўнікоў культуры, навукі і медыяў".

Адукацыя, з'яўляючыся сацыяльным інстытутам грамадства, выконвае яго патрэбы. Яе сённяшні і заўтрашні дзень прадвызначацца патрабаваннямі асобаў і грамадскім заказам. Гэтымі фактарамі рэгулюецца ўзровень навучанння, выхавання і развіцця асобы, у тым ліку і малодшага школьніка, фармаванне тых маральных, кагнітыўных, бытавых, культурных ведаў, уменняў і навыкаў, якія неабходны яму для камфортнага існавання ў калектыве, грамадстве, для аптымальнай рэалізацыі сваіх грамадзянскіх функцый.

З матэрыялаў гутаркі А. Мароза і прафесара Аляксандра Баршчэўскага, загадчыка Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, даведваемся пра тое, што прафесар А.Баршчэўскі выдаў кніжку "Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы 1958-1998", у якой змешчаны характарыстыкі ды аналіз жыцця і творчасці трыццаць аднаго сябра Літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Кніжку гэтую ён напісаў маючы на ўвазе патрабаванні настаўнікаў беларускай мовы ў падставовых і сярэдніх школах, а таксама студэнтаў і навуковых супрацоўнікаў некалькіх беларускіх філалогій у Польшчы, маючы на ўвазе патрабаванні інтэлігенцыі Рэспублікі Беларусь і беларускай эміграцыі на Захадзе. Напісана кніжка на беларускай мове, што павінна пасадзейнічаць папулярызацыі беларускіх пісьменнікаў Польшчы таксама за яе межамі (2001, № 43).

Праводзячы аналіз тыднёвіка "Ніва", мы выявілі, што прыгожыя, выкрышталізаваныя тысячагоддзямі трапныя словы народнай паэзіі, вопратка, танцы і карагоды, што засталіся нам у спадчыну ад продкаў, святочныя ўрачыстыя рытуалы і дзеянні, іншыя фальклорныя матэрыялы, а таксама дзіцячыя вершы Віктара Шведа, творы для дзяцей і пра дзяцей Міры Лукшы, вершы і замалёўкі самых вучняў малодшых класаў, што друкуюцца ў "Ніве" на старонцы для дзяцей "Зорка", у сінкрэтычнай сукупнасці з нормамі этыкі і маралі спрыяльна ўплываюць на розум і сэрца малодшых школьнікаў, абуджаюць жаданне захоўваць нацыянальныя духоўныя каштоўнасці і традыцыі. І як вынік, намі выяўлена, што ў чытачоў тыднёвіка паступова фармуюцца рысы, маральна-этычныя і эстэтычныя погляды, уласцівыя працавітаму, улюбёнаму ў сваю Айчыну беларускаму народу, паважліваму да мінулых пакаленняў і створанай імі культурнай традыцыі, фармуецца спецыфічная гуманістычная па сваёй сутнасці нацыянальная самасвядомасць.

"Ніва" з'яўляецца эфектыўным сродкам далучэння беларуска-польскага сумежжа да этнакультуры гістарычнай радзімы.

*Людміла Піскун, канд. філалаг. навук, дацэнт (г.Мазыр, Беларусь); Яўгенія Піскун, канд. пед. навук (г.Мазыр, Беларусь).*

# ПРОДКІ КЛІЧУЦЬ

## (Рэпетыцыя перад двухсотгоддзем)

***Што мне Парыж, Рым прыгожы і слынны,***
***Што швейцарскія горы, старыя Афіны.***
***Што мне Вена, Мадрыд, што мне Лондан туманны,***
***Больш за ўсё я бацькоўскаму краю аддані!***
***Тут прывольна і ўтульна на ўлонні прыроды!***
***Тут і птушкі спяваюць прыгожа заўсёды!***
***Тут і сонца на свет весялей паглядвае!***
***І любоў гарачэй тут у сэрцах палае!***
***Тут, як пройдзе зіма, час к нам вернецца весні,***
***Заспявае жаўрук свае звонкія песні,***
***Ветрык з поля раптоўна лагодна павее,***
***Малады скача з радасці, дзед маладзее!***
***Тут нявеста, што болей не знойдзеш вярнейшай!***
***Тут дзяўчына, што ў свеце няма прыгажэйшай.***
***Тут ёсць праўда і шчырасць, тут людзі з душою!***
***Тут бацькоў маіх прах пад сырою зямлёю!***
В.І. Дунін-Марцінкевіч. "Баслаўлёная сям'я", 1856 г.

У друку ўжо прамільгнула паведамленне, што напачатку сакавіка з клопату Язэпа Янушкевіча, апякуна творчай спадчыны слыннага нашага драматурга Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Беларусь наведаў цэлы гурт ягоных нашчадкаў. Сярод іх – Станіслаў Плаўскі, Багдан Кавалінскі з сваім дваццаці трох-гадовым сынам Барташам. Разам з імі Беларуь наведала таксама Барбара Чарнавеская – Крыжаньская з братам Тадэвушам. З іх удзелам на Беларусі прайшло некалькі літаратурных імпрэзаў. Усе яны прысвячаліся 195-ай гадавіне з дня народзінаў знакамітага драматурга. Цікавыя тэта былі імпрэзы! Да адной з іх у Доме Літаратара – быў далучаны і я. Я сядзеў у зале, глядзеў на гэты гурт Марцінкевічавых нашчадкаў і думаў: "Чаму ж гэтыя нашчадкі не жывуць на Беларусі, не памнажаюць добрых традыцыяў слыннага свайго продка? Чаго яны расцярушаныя па свеце? От Станіслаў Плаўскі. Ён старэйшы ў гэтым гурце Марцінкевічавых нашчадкаў. Ён памятае яшчэ даваенную Люцінку. І вайну тут пражыў. Тут і вызваленне прычакаў. То што змусіла яго і ягоную маці, пераажыўшы ліхалецце, пакінуць свой родны кут?!"

Пытанні ёсць. Але адказ на іх я, мусіць, пачую толькі пасля вечарыны. А вечарына тым часам ідзе сваёй чаргой. Марцінкевічавы нашчадкі згадваюць, як да іх прыходзіла імя слыннага свайго продка, што для іх ягоная творчае спадчына. Некаторыя згадываюць і пра родавае гняздо – Люцінку.

Я пільна сачу за жэстамі, рухамі і мімікай тых, хто ўсяго на некалькі дзён завітаў на зямлю сваіх дзядоў і прадзедаў. От Барбара Чарнавеская-Крыжаньская... Яна ўсёй сваёй істотай ловіць кожны гук, кожнае беларусае слоўца. А ў тахт спеваў нашых народных песняў яна ледзьве прыкметна раскалахвае плечыкамі нібы дырыжуе. Гэта яе душа спявае, гэта так яна спявачцы падпявае. Вочы яе праменяцца. Барбара прыехала аж з Амерыкі. Трэба пасля вечарыны разважаю і з ёй хоць прыхапам перакінуцца словам. Яна ж паэтка! Піша пакуль па-польску. Але хто ведае! Можа пасьля наведання Беларусі -- радзімы свайго продка – штосьі ў душы яе і варухнецца!.. Барбара нарадзілася ў 1954 годзе ў Кракаве ў сям'і прафесара матэматыкі. Міраслава Крыжаньскага. Скончыла Ягелонскі ўніверсітэт, вучылася ў аспірантуры ва ўніверсітэце імя Тараса Шаўчэнкі ў Кіеве (1988-1992).

Пісаць пачала з сямнаццаці гадоў. Яна аўтар аж трох паэтычных зборнікаў – "Ахвяраванне", "Кветка, поўная мараў", "Маліва на ад'езд з Кракава".

Прозвішчы Плаўскіх і Крыжаньскіх мне вядомыя даўно, з часу наведання Люцінкі. Мне пра іх не раз распавядалі люцінкаўцы, давалі іхнія адрасы, каб я з імі заліставаўся. Але я гэтага, на жаль, не зрабіў. Зрабіў гэта мой маладзейшы калега – Язэп Янушкевіч. То дзякую яму! Дзякуй яму ад ўсіх за гэтую незабыўную сустрэчу.

Вечарына снуецца элегантна, цікава, гжэчна, і ўсё ж я прагну таго моманту, калі яна скончыцца, калі я змагу з кожным з Марцінкевічавых нашчадкаў пагутарыць непасрэдна. Але от прагучаў нарэшце і апошні акорд імпрэзы. Я рынуўся на сцэну. І найперш да Станіслава Плаўскага. Да яго ў мяне шмат пытанняў: "Як яму помніцца тая, даваенная Люцінка? Якая ў яго моўная аснова? На якой мове ён размаўляў змалку? Ці хадзіў хоць трохі ў беларускую школу? Колькі гадоў пражыў у Люцінцы? У якім годзе пакінуў яе? – 1946.

Чаму? "На ўсе гэтыя мае пытанні спадар Станіслаў Плаўскі адказвае ахвотна: простую беларускую мову ён ведаў з малых гадоў; на ёй ён калісь размаўляў лёгка і нязмушана. Яе ён чуў і ад сваёй мамы, нават тады, калі жылі ўжо ў Польшчы.

- Але ж вы ведаеце, - кажа неяк нібы вінавата Станіслаў, -у Польшчы мы жывём ужо амаль шэсцьдзесят гадоў. Шмат чаго з маёй маленчай моўнай беларускай практыкі расцерушылася, забылася. Але разуменне беларускай мовы ў мяне стопрацэнтнае.

Гэтую нашу размову з спадаром Станіславам чуе і Барбара. Яна таксама пацвердзіла, што ў яе, хоць яна і нарадзілася, расла і гадавалася ў Кракаве, таксама стопрацэнтнае разуменне беларускай мовы. Больш таго, Барбара сказала:

- Наступным разам, калі мне давядзецца зноў прыехаць на Беларусь, я падрыхтуюся і буду тут скрозь прамаўляць толькі па-беларуску.

- Прывабная сама па сабе, з прыроды, для мяне спадарыня Барбара яшчэ больш пахарашэла.

Мне даўно карцела напаткаць чалавека з Польшчы, які ніколі не чуў беларускай мовы. А для чаго? Хацелася праверыць, як наша беларускае пісьмо лацінкаю, будзе чытацца, ці ўспрыймаца чалавекам, які ніколі не чуў нашае мовы, але які мае натуральную практыку чытання кніг лацінкаю. То якое гэта будзе чытанне: усвядомленае, з поўным разуменнем ці гэта мае быць простае прагаворванне слоў.

У мяне ўжо такое было, з мною ўжо такое здаралася...

... Неяк раз вяртаўся з Барэсця. У наша купэ падселі дзве танклявыя дзяўчыны. Раптам яны неяк пісклява між сабою загаварылі. Напачатку я падумаў, што гэта дзве якіясь глуханямыя. Аж высветлілася – абедзве амерыканкі, з Каліфорніі. Так-сяк разгаварыліся: дзе мігамі, дзе інтэрнальным падборам слоў, кшталтам "бізнес", дзе і ангельскім словам. У мяне было такое-сякое паняцце пра ангельскую мову, нават ведаў трохі правілы яе чытання. І от адна з дзяўчын дастае з пляцака томік Шэкспіра ў ангельскай мове. Я разгортваю тую кнігу і пачынаю чытаць. Чытаць чытаю, але рэдка якое слова цямлю. А мае каліфорнеўскія дзяўчаты ў захапленні: "Во, думаюць, на якога знаўцу ангельскай мовы натрапілі!" Я распавядаю Барбары гэтую сваю філалагічную гісторыю і пытаюся: "Дык ці не такое чытанне будзе і ў нас?" "Ой, нее! – пярэчыць Барбара і пачынае чытаць Багушэвічаву Прадмову да "Дудкі Беларускай", выдрукаваную лацінкаю па-беларуску. Чытае з факсімільнага выдання 1891 года.

Braty milyje, dzieci Ziamli-matki majej! Wam ahwiarujuczy pracu swaju, muszu z wami pahawaryc trochi ab naszaj doli-niadoli, ab naszaj backawaj zpradwiecznaj mowie, katoruju my sami, da i nie adny my, a usie ludzi ciomnyje, "muzyckaj" zawuc, a zawjetca jana "bielaruskaj".



"Лебедзь". Герб роду Марцінкевічаў.

Чытае Барбара Багушэвічаву Прадмову, як рэпу грызе, нібыта яна сама яе напісала. Праўда, дзе-нідзе прабіваецца польскі, а мо нават ангельскі пранонс. Скажам, слова "дзеці" ў яе прагучала як "джэці". Але я, як тыя дзяўчаты з Каліфорніі, задаволены Барбарыным чытаннем беларускага тэксту лацінкаю.

На сустрэчу з нашчадкамі Дуніна-Марцінкевіча я прыйшоў у вышыванцы. Мне хацелася, каб гэта было святочна. Гэта адно. А другое, хацелася усім у зале нагадаць сваёй вышыванкаю пра ўзоры роднага краю.

Хтось з нашчадкаў слыннага драматурга, здаецца, ці не Барбарын брат Тадэвуш Крыжаноўскі сказаў, што ягоная кабета таксама мае вышываны строй.

За дні свае пабыўкі Марцінкевічавы нашчадкі наведалі слынную Люцінку, паглядзелі ў Купалавым тэатры "Ідылію" паводле аднайменнай п'есы свайго знакамітага продка. Завіталі ў Першаі, Валожын. Усе яны цікавяцца сваім радаводам.

Дзеля гэтага завіталі ў Дзяржаўны архіў на Краповткіна. І не дарэмна. Да ўжо складзенага іхняга радаводу знайшлі колькі патрэбных ім штрышкоў-удакладненняў. Вялікім адкрыццём для усіх быў і фотаальбом "Вінцэнт Якуб Дунін – Марцінкевіч", выдадзены выдавецтвам "Народная асвета" у 1997 годзе. Драматургавы нашчадкі проста не маглі адвесці вачэй ад гэтага альбома, адкрываючы для сябе нязнаныя старонкі і з Марцінкевевічавага жыцця, і свайго роду. Гэты альбом яны павезлі з сабою, як самую дарагую для іх памятку. Натхнёны гэтай сустрэчай, я паабяцаў да наступнага іхняга прыезду падрыхтаваць і выдаць кніжачку пра Марцінкевічаву Люцінку, баладзе, у мяне для гэтага ёсць усё. Я папрасіў падтрымаць мяне ў маім парыванні, хто чым зможа: хто ўспамінамі, хто добрым словам, а хто і ахвяраваннем на выданне. І першыя адгукнуліся на мой кліч Кавалінськія сын і бацька, Барташ і Багдан, студэнт і марскі штурман.

(Заканчэнне на ст. 6.)


Кадр з вечарыны ў Доме літаратара 4-га сакавіка 2003 г. Адлева направа нашчадкі Дуніна-Марцінкевіча: наймалодшы - Барташ Кавалінскі, поруч з ім літаратарка Барбара Чарнявеская-Крыжаньская. Побач з ёй з альбомам - яе брат Тадэвуш Крыжаньскі. За ім - Багдан Кавалінскі, Вацлаў Плаўскі і ўдзельнік вечарыны Уладзімір Содаль, аўтар альбома "Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч". Фота П. Шашкеля.


Люцінка. Агульны абрыс колішняй сядзібы В. Дуніна-Марцінкевіча. Фота Ул. Содаля.

# ПРОДКІ КЛІЧУЦЬ

## (Рэпетыцыя перад двухсотгоддзем)

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 5.)*

Яны ахвяравалі свае пачатковыя ўнёскі на выданне кніжачкі пра Люцінку. Дунін – Марцінкевіч таксама на выданне сваіх кніжак збіраў ахвяраванні. Здаецца, ацалеў невялікі спіс ягоных ахвяравальнікаў, ягоных падпісчыкаў.

Язэп Янушкевіч сустрэчу з нашчадкамі слыннага драматурга назваў генеральнай рэпетыцыяй перад двухсотым юбілеем Дудара Беларускага. А юбілей гэты будзе зімою 2008 года. Дунін – Марцінкевіч нарадзіўся чацьвёртага лютага. От і даводзіцца яго нашчадкам прыязджаць на ягоныя юбілеі зімою. Зіма мо не зусім самая зручная пара для вандровак: і зімна, і снегам усё засыпана наўкола: далей за дарогу кроку не ступіш. І дзень кароткі, а ўлетку кожны кусцік начаваць пусціць. Але ж у родным краі "прах бацькоў пад сырою зямлёю".

А продкі клічуць! І мы чуем гэты іхні кліч і едзем на яго позву з усіх куточкаў зямлі. дзе б ні жылі.

... Спрадвеку вядзецца: усе народы свету цікавяцца нашчадкамі сваіх дзеячоў і шукаюць з імі хоць якіх кантактаў. Творчая інтэлігенцыя Беларусі таксама ніколі не была абыякавай да нашчадкаў нашых нацыянальных дзеячоў. Яна заўсёды шукала з імі хоць якой жывой повязі – ці праз ліставанне, ці праз асабістыя сустрэчы. Гэтая повязь патрэбна не толькі ім, але і нам. Прыгадайма колішні прыезд на Беларусь з Амерыкі Данчыка Андрусішына. Як ён адзін змог узварушыць нашу беларускую моладзь! І не толькі моладзь, але сталых дзеячоў. Ім таксама патрэбны прыліў новай энергіі. І Данчык даў Беларусі такую энергію. Прыгадваецца, як кранутая была Данчыкам знакамітая актрыса Стэфанія Станюта. Яна, не хаваючы свайго хвалявання, з распрацёртымі рукамі: выгукнула з залы:

- Данчык! Вы – цуд!

Трэба спадзявацца, пабыўка Марцінкевічавых нашчадкаў на Беларусі таксама станецца якойсь цаглінкаю ў наш беларускі дом, у наш беларускі падмурак. Адзінае, чаго б жадалася, чаго б хацелася, каб гэтымі беларускімі нашчадкамі слынных нашых нацыянальных дзеячаў хоць трошкі цікавіліся дзяржаўныя структуры. Што ж да іхніх ранейшых папярэднікаў з часоў БССР, дык тыя якраз зрабілі ўсё, каб на Беларусі і духу тых нашчадкаў і блізка не было. Дзіўна гэта чуць, але, на вялікі жаль, так было! Гэтая тэза якраз і ёсць адказ на пытанне, чаму Станіслаў Плаўскі, ці шмат хто іншы, пакінулі з маці свай радзінны кут – слынную Марцінкевічаву Люцінку. "Маме так і сказалі, - згадвае спадар Станіслаў, - ці прымайце новы парадак, ці шукайце сабе другую радзіму!" Нашчадкі Дуніна-Марцінкевіча мусілі падпарадкавацца новай уладзе, бо ведалі, што будзе, калі аслухаюцца. З тае ж прычыны няма на Беларусі ні нашчадкаў Ядвігіна Ш., ні Язэпа Лёска ды шмат чых іншых. Адны з іх, бачачы, што робіцца ў краі, самі паз'язджалі, іншым "па-сяброўску" параілі за лепшае адсюль з'ехаць, а шмат каго сілаю вывезлі: пакінуць радзіму яны пакінулі, хоць і нялёгка гэта было рабіць. Але ж радзіму з сэрца не выкінеш. Яна, як продкі, калі-нікалі кліча да сябе, гукае хоць калі наведаць яе, наталіць сваю настальгію. паглядзець, як яно там на Бацькаўшчыне без іх. От і нашчадкі нашага слыннага драматурга змовіліся і з розных куткоў свету з'ехаліся на зямлю сваіх продкаў, дзе "прывольна і ўтульна на ўлонні прыроды". дзе "птушкі спяваюць прыгожа заўсёды", дзе "і сонца на свет весялей паглядае". дзе "і любоў гарачэй тут у сэрцах палае". Гэта так: дарагі мой куток, дзе рэзаны твой пупок.

Усе Марцінкевічавы нашчадкі з непаслабнаю ўвагаю слухалі гэтыя пяшчотныя словы свайго слыннага продка. Асабліва, як мне падалося, слухала іх паэтка Барбара. Я спадзяваўся сустрэцца з ёй яшчэ. Мне хацелася параіць ёй свае вершы пра Беларусь, з беларускімі матывамі, паспрабаваць пісаць па-беларуску. Але гэтая думка прыйшла мне ў голаў ужо дома. Для гэтай стрэчы я падрыхтаваў для Барбары і колькі слоўнічкаў нашай жывой мовы. Знайшлося ў мяне і два асобнікі манаграфіі Сцяпана Майхровіча "В. І. Дунін-Марцінкевіч" ды іншая карысная для яе літаратура. Сярод іх памятка В. Ластоўскага "Што трэба ведаць кожнаму беларусу". Усё гэта я збіраўся ахвяраваць Барбары. Але яе крэўныя сказалі, што Барбара неўзабаве пасля вечарыны паехала ў сваю Амерыку. Мне нічога не заставалася, як толькі пашкадаваць. То хай хоць праз друкаванае слова дойдзе да Барбары маё пажаданне. Тым больш, што яна на гэта сама дала надзею: "Наступным разам я буду на Беларусі ўсюды размаўляць па-беларуску!"

*Іван Лепешаў, прафесар, доктар філалагічных навук*

# ЧАМУ МЫ ТАК КАЖАМ

У нашай мове, як і ў нішых мовах, будаўнічым матэрыялам, "цаглінкамі" для сказаў служаць не толькі словы, але і фразеалагізмы. Гэта, напрыклад, такія кароткія, але змястоўныя і трапныя выразы з цэласным сэнсам, ***як ад яйка адліць, аршын з шапкаю, выйсці сухім з вады, гады ў рады, дзірка ад абаранка, за дзедам шведам, малоць не падсяваючы, сабакам сена касіць, следам за дзедам, смаловы дуб, цырк на дроце, як басаму раззуцца.*** Іх у нашай літаратурнай мове больш за шэсць тысяч.

Пісьменнікі, фалькларысты, лінгвісты слушна называюць фразеалагізмы самародкамі, самацветамі роднай мовы, залацінкамі народнай мудрасці. Каб залацінка гэта свяцілася ў пісьмовым тэксце, у вусным выказванні. Яе трэба выкарыстоўваць умела і дарэчы.

Свядомае і асэнсаванае засваенне, а затым і ўжыванне шмат якіх фразеалагізмаў студэнтамі, вучнямі (і не толькі імі) можа быць паспяховым толькі пры ўмове, калі яны ведаюць вытокі, гісторыю ўзнікнення гэтых выразаў, маюць хоць бы элементарнае ўяўленне пра жыццё пэўных фразеалагізмаў у часе і прасторы. У досыць многіх з іх, як пісаў Б. Ларын: "усе словы вядомыя. а сэнс цэлага застаецца няясным". Так. частаўжывальны. асабліва ў апошняе дзесяцігоддзе, фразеалагізм ***пятая калона*** (калька з іспанскай мовы) абазначае "***варожая агентура ўнутры краіны***". А каб зразумець. пры чым тут калона і чаму пятая. трэба ведаць этымалогію гэтага выразу. А бывае так, што сэнс фразеалагізму, напрыклад, ***шуры-муры ("любоўныя справы, прыгоды")*** прывычны, знаёмы, вядомы, а яго састаўныя часткі, неўжывальныя па-за фразеалагізмам, незразумелыя, таямнічыя. А між тым гэты выраз склаўся ў выніку некаторага скажэння французскага свабоднага словазлучэння ***cher amour*** (чытаецца як "***шэр амур***"), дзе ***cher – "дарагі, мілы"***, а ***amour – "любоў, каханне"*** і "***жарсць***".

Амаль ва ўсіх развітых літаратурных мовах, і ў беларускай таксама, больш як трэцяя частка фразеалагізмаў прыпадае на калькі і паўкалькі. Перафарбоўваючыся пад нацыянальную ідыёматыку, яны арганічна ўваходзяць у маўленне, уліваюцца ў агульную плынь нацыянальнай мовы. Паколькі структурная схема іншамоўнага фразеалагізму запаўняецца нашымі словамі, то звычайна іншамоўнасць скалькаваных выразаў сусім не адчуваецца. Таму не як чужародны, скалькаваны, а як свой, нацыянальны ўспрымаецца на першы погляд, напрыклад, фразеалагізм ***браць быка за рогі***. А насамрэч гэта – калька з іспанскай мовы. і ўзнікненне выразу звязана з такім масавым відовішчам у Іспаніі, Партугаліі, як карыда – бой тарэадора з быком.

У дзвюх частках майго "Этымалагічнага слоўніка фразеалагізмаў" (Мн., 1981, 1993) атрымалі гістарычна-этымалагічную даведку амаль 1400 фразеалагізмаў. Пошукі этымалогій працягваліся. Цяпер да ранейшых можна дадаць яшчэ больш як 400 выразаў. Кожны з іх мае прасторавую характарыстыку з паказам геаграфіі яго бытавання. Гэта паметы тыпу: уласна беларускі, агульны для ўсходнеславянскіх моў, запазычаны з украінскай мовы, калька з французскай мовы, паўкалька з нямецкай мовы і г. д. 104 выразы з 405 – уласна беларускія. Пры этымалагізацыі я шырока карыстаўся слоўнікамі іншых моў (англійскай, французскай, нямецкай, лацінскай, іспанскай, польскай, балгарскай і інш.), а таксама ўлічваў шматлікія звесткі, змешчаныя ў розных выданнях (рускіх, украінскіх, польскіх).

Вось гістарычнаэтымалагічныя даведкі да некаторых фразеалагізмаў нашай літаратурнай мовы.

### *Муж аб'еўся груш*

*Уласна беларускі.*

Муж незаконны. не аформлены юрыдычна або, які знік, прапаў. - "Яна што? Замуж выйшла? – Якое там замуж... Муж аб'еўся груш" (Л.Арабей. Іскры ў папялішчы).

Ужываецца толькі пры слове ***муж*** як іранічнаацэначны, камічны, смехатлівы дадатак да гэтага назоўніка, з якім звязаны рыфмай як сродкам спайкі і зліцця абедзвюх частак у непадзельны і марфалагічна нязменны комплекс. Выкарыстоўваецца і з нарашчэннем ***і лопнуў***: "- У мяне муж ёсць... – Быў у цябе муж, ды аб'еўся груш і лопнуў, - злосліва пажартавала Агата" (Р. Сабаленка).

### *Абкласці чырвонымі сцяжкамі каго*

*Уласна беларускі.* Стварыць крайне неспрыяльныя ўмовы для чыёй-н. жыццядзейнасці. Атрымліваецца, што рэдактара газеты абклалі чырвонымі сцяжкамі (Нар. воля. 7.05.2002)

Склаўся ў выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, звязанага з аблавай на ваўкоў. Параўн. У апавяданні В.Карамазава "Час ваўкоў": "Ваўкі ішлі ўздоўж чырвоных, нібы плямы крыві на белым снезе, сцяжкоў, а мы з Петраком стаялі ў крузе у загоне, і добра бачылі, як прыгожа яны ішлі. Нас шэрыя пачулі даўно, можа, як толькі мы тут з'явіліся, чулі, як абносілі іх лес сцяжкамі".

### Адвейваць зерне ад паловы

*Уласна беларускі.* Аддзяляць добрае ад дрэннага, карыснае ад шкоднага, непатрэбнага. "Калі яны (копіі лістоў) для Вас акажуцца непатрэбнымі, я тады, будучы ў Мінску, забяру назад. Але мне чамусьці здаецца, што Вы здолееце адвеяць зерне ад паловы (У. Дубоўка. Ліст да Дз. Бугаёва).

Мадэліраваны выраз, створаны на ўзор рускага ***отделять пшеницу от плевел*** з захаваннем структуры і заменай кампанентаў іншымі словамі. У беларускай літаратурнай мове выраз ужываецца ў абедзвюх трывальных формах дзеяслоўнага кампанента і ў такіх варыянтах: адвейваць (веяць, адсейваць) зерне ад паловы (мякіны); адвеяць (адсеяць) зерне ад паловы (мякіны). Выток фразеалагізму ***отделять пшеницу от плевел*** – евангельская прыпавесць (Матвей, 13, 24 – 30). У ёй расказваецца, як да чалавека, які пасеяў пшаніцу, ноччу прыйшоў вораг і паміж пшаніцаю пасеяў плевелы (пустазелле). Калі ўзышла пшаніца з пустазеллем, рабы прапанавалі гаспадару павырываць зелле, але ён загадаў пакінуць усё, як ёсць, а ў часе жніва спачатку вырваць зелле і спаліць яго. а пасля сабраць пшаніцу. Зрэдку ў беларускіх творах можна напаткаць і выраз. тоесны з рускім: "Будзе зручная часіна, перагледзім іх (пракламацыі) і тады аддзелім плевелы ад пшаніцы" (Я.Колас).

### Архіпелаг ГУЛАГ

*Запазычаны з рускай мовы.* Канцэнтрацыйныя лагеры ў перыяд сталінскага таталітарызму. "Малады паэт атрымаў дзесяць гадоў зняволення, быў адпраўлены ў найжорсткую пашчу архіпелага ГУЛАГа, адкуль змог выбавіцца толькі ў пяцідзесятых гадах, у час "хрушчоўскай адлігі" (А. Лойка. З лагерных вершаў).

Паходзіць ад назвы трохтомнай кнігі (1958-1979) А.Салжаніцына. У кнізе (яна мае падзагаловак "Спроба мастацкага даследавання") расказваецца пра турэмную і лагерную сістэму ў Савецкім Саюзе з 1918 па 1956 гг., пра следства, суды, этапы, ссылку і "душэўныя змяненні за арыштанцкія гады". Аўтар размяжоўвае ў кнізе напісанні: "ГУЛАГ для абазначэння лагернай краіны, Архіпелага; ГУЛаг – для абазначэння Галоўнага Упраўлення Лагераў і яго апарату".

### *Без пальцаў піць*

*Уласна беларускі.* З ахвотай і шмат, не адмаўляючыся (піць спіртное). "Старшыня сельсавета, як і належала на такой пасадзе, піў без пальцаў" (Р. Барадулін. Тады й надзенеш).

Фразеалагізм "цялячага паходжання". Як піша Р. Барадулін, "звычайна калі, цяля адсаджваюць ад каровы, на першых часінах у пойла кладуць пальцы. і паёнак прывыкае піць". А пасля п'е ўжо без пальцаў.

### *Браць лейцы ў (свае) рукі*

*Уласна беларускі.* Прымаць на сябе кіраванне чым-н. "А я стары. Зусім стары. І хворы. І нядужы. У рукі лейцы ты бяры. Кіруй разумна, дружа". (А. Бялевіч. Васіль Вашчыла).

Узнік у выніку метафарызацыі свабоднага словазлучэння. Лейцы бяруць у рукі (у прамым значэнні гэтых слоў) для таго, каб кіраваць канём, запрэжаным у воз ці сані. Параўн. Ужыванне фразеалагізму з актуалізацыяй яго ўнутранай формы праз выкарыстанне побач з ім выдзеленых тут слоў: "Эге ж, хлопча, у тым справа, што не роўны людзі ў свеце; слабы, цёмны жыве ў смецці, а дужэйшы правіць права, ездзіць, лейцы ўзяўшы ў рукі. Эге ж: сіла ў гэтай штучцы. Але, хлопча, лейцы рвуцца, а без іх няма панукі" (Я. Колас). Першым выкарыстаў гэты выраз (а можа, і стварыў яго) К. Крапіва ў сатырычнай паэме "Хвядос – Чырвоны нос" (1930), каламбурна спалучыўшы з прозвішчам Кучар, што выклікае асацыяцыю са словам кучар (руск. кучер – бел. фурман. рамізнік. вазніца): "Ад мастацтва тады Кучар браць вучыўся ў рукі лейцы. Камандзіраў было - куча. болей як культурармейцаў"

### Бурыданаў асёл

*Калька з французскай мовы (**l'ane de Buridan**)*. Крайне нерашучы чалавек. які хістаецца, вагаецца ў выбары паміж двума раўнацэннымі рашэннямі ці раўназначнымі жаданнямі. (Кардонскі: "Я зусім у органы не збіраўся, мяне накіраваў райкам камсамола. Бо сам як бурыданаў асёл... Стаяў на раздарожжы, не ведаючы, што выбраць: ці дарагую мне гісторыю, ці такую ж літаратуру, ці журналістыку (С. Дубавец. Мой народ).

Узнікненне фразеалагізму звязваецца з імем французскага філосафа Ж. Бурыдана (XIV ст.), які даказваў, што ўчынкі жывых істот залежаць не ад іх волі, а выключна ад знешніх прычын. У пацвярджэнне сваёй думкі ён узяў для прыкладу асла, які, знаходзячыся на роўнай адлегласці ад двух аднолькавых ахапкаў сена, абавязкова павінен загінуць ад голаду, бо пры абсалютнай свабодзе волі ён не зможа аддаць перавагу якому-небудзь аднаму ахапку сена. Параўн. Ужыванне фразеалагізму з намёкам на яго першапачатковую вобразнасць: " – Пагубяць цябе гэтыя ягады, як бурыданавага асла сена, - смяецца з Машы Аркадзь" (В.Гігевіч).

*(Працяг у наст. нумарах.)*

# СУСВЕТНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ КУЛЬТУРНАЙ РАЗНАСТАЙНАСЦІ

**ЮНЕСКА 3 лістапада 2001 г., г. Парыж**

*(Заканч. Пач. на ст. 7.)*

### Галоўныя кірункі плана дзеянняў па выкананні Сусветнай Дэкларацыі ЮНЕСКА па культурнай разнастайнасці

Дзяржавы – сябры ЮНЕСКА абавязуюцца зрабіць адпаведныя крокі па шырокім распаўсюджванні "Сусветнай Дэкларацыі ЮНЕСКА па культурнай разнастайнасці", у прыватнасці, для дасягнення наступных мэт:

1. Паглыбляць міжнародны дыялог па пытаннях, якія тычацца культурнай разнастайнасці, у прыватнасці, яе сувязяў з развіццём і яе ўплыву на фармаванне палітыкі як на нацыянальным (дзяржаўным), так і на міжнародным узроўнях; у прыватнасці, актывізаваць дзейнасць па аналізу мэтазгоднасці прыняцця міжнароднага прававога акту па культурнай разнастайнасці.

2. Спрыяць вызначэнню прынцыпаў, стандартаў і практычных дзеянняў, як на нацыянальным (дзяржаўным), так і на міжнародным узроўнях, а таксама форм папулярызацыі і мадэляў супрацоўніцтва, якія былі б найбольш эфектыўнымі ў справе захавання культурнай разнастайнасці і садзеяння ёй.

3. Спрыяць абмену ведамі і больш дасканалымі формамі дзеянняў у сферы культурнага плюралізму з мэтай аблягчэння ўключэння і ўдзелу у гэтым працэсе асоб і груп рознага культурнага паходжання ў грамадствах, якія складаюцца з розных культурных элементаў.

4. Пашыраць разуменне і тлумачыць сэнс культурных правоў як інтэгральнай часткі правоў чалавека.

5. Захоўваць моўную спадчыну чалавецтва і падтрымліваць існаванне моў, творчасці на іх і распаўсюджванне як мага большай колькасці моваў.

6. Стымуляваць развіццё моўнай разнастайнасці – пры павазе да роднай мовы – на ўсіх узроўнях адукацыі, наколькі гэта магчыма, і спрыяць вывучэнню шэрагу моваў з маладога ўзросту.

7. Спрыяць праз адукацыю станоўчай ацэнцы культурнай разнастайнасці і з гэтай мэтай удасканальваць, як вучэбныя праграмы, так і падрыхтоўку выкладчыкаў.

8. Па магчымасці ўкараняць традыцыйныя метады педагогікі ў адукацыйны працэс з мэтай захавання і больш поўнага выкарыстання адпаведных культурнай традыцыі метадаў перадачы ведаў.

9. Спрыяць "дыгітальнай (у рамках лічбавых тэхналогій) пісьменнасці" і ўдасканальванню новых інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій, якія павінны разглядацца як адукацыйная дысцыпліна і як педагагічны сродак для павышэння эфектыўнасці працэсу навучання.

10. Спрыяць моўнай разнастайнасці ў кібернетычнай прасторы і ўсеагульнаму доступу праз сусветную сетку да ўсёй інфармацыі ў грамадскай сферы.

11. Пераадольваць розніцу ў развіцці дыгітальных (лічбавых) тэхналогій у цесным супрацоўніцтве з адпаведнымі сістэмнымі арганізацыямі ААН, спрыяючы доступу краін, якія знаходзяцца на стадыі развіцця да новых тэхналогій, дапамагаючы ім у засваенні інфармацыйных тэхналогій і спрыяючы распаўсюджванню дыгітальнымі сродкамі рэгіянальных прадуктаў культурнага працэсу і доступу гэтых краін да адукацыйных, культурных і навуковых дыгітальных рэсурсаў, даступных ва ўсім свеце.

12. Спрыяць вытворчасці, захаванню і распаўсюджванню інфармацыі рознага зместу ў сродках масавай інфармацыі і сусветнай інфармацыйнай сетцы і з гэтай мэтай спрыяць павышэнню ролі радыё і тэлебачання ў развіцці аўдыёвізуальнай прадукцыі высокай якасці, у прыватнасці, спрыяць усталяванню сумесных механізмаў, каб аблегчыць распаўсюджванне такой прадукцыі.

13. Распрацоўваць палітыку і стратэгію захавання і ўзбагачэння культурнай і прыроднай спадчыны, а, перш за ўсё, вуснай і нематэрыяльнай, а таксама змагацца супраць незаконнага гандлю аб'ектамі культуры і паслугамі ў сферы культуры.

14. Шанаваць і абараняць традыцыйныя веды, асабліва карэнных народаў; прызнаваць уклад традыцыйных ведаў, асабліва ў справе абароны навакольнага асяроддзя і выкарыстання прыродных рэсурсаў, і спрыяць гарманізацыі сучаснай навукі і рэгіянальных ведаў.

15. Спрыяць магчымасці свабоднага перамяшчэння творцаў, мастакоў, даследчыкаў, навукоўцаў і інтэлектуалаў і развіццю міжнародных праграм даследавання і партнёрства, у той жа час захоўваць творчыя магчымасці і спрыяць ім у краінах, якія знаходзяцца на стадыі развіцця і на пераходным этапе.

16. Забяспечыць абарону аўтарскіх і сумежных з імі правоў у інтарэсах развіцця сучаснай творчасці і справядлівай аплаты творчай працы, у той жа час падтрымліваць правы грамадства на доступ да культуры ў адпаведнасці з артыкулам 27 Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека.

17. Садзейнічаць узнікненню і актывізацыі дзейнасці ў сферы культуры ў краінах, якія знаходзяцца на стадыі развіцця і на пераходным этапе, і з гэтай мэтай супрацоўнічаць дзеля развіцця неабходных інфраструктур і ведаў, спрыяць узнікненню мясцовых рынкаў і доступу аб'ектаў культуры гэтых краін да сусветнага рынку і міжнароднай сеткі распаўсюджвання.

18. Развіваць культурную палітыку, уключаючы захады па апературыйнай падтрымцы і стварэнні неабходнай нарматыўна-прававой базы, якая, была б накіравана на ажыццяўленне прынцыпаў гэтай Дэкларацыі ў адпаведнасці з міжнароднымі абавязкамі кожнай дзяржавы.

19. Прыцягнуць грамадзянскую супольнасць да справы вызначэння грамадскай палітыкі, накіраванай на захаванне культурнай разнастайнасці і садзеянне ёй.

20. Прызнаваць і падтрымліваць уклад, які можа зрабіць прыватны сектар у справу садзеяння культурнай разнастайнасці, і спрыяць з гэтай мэтай скліканню форумаў для правядзення дыялогу паміж дзяржаўным і прыватным сектарамі.

21. Дзяржавы-сябры рэкамендуюць Генеральнаму дырэктару ўлічваць змест гэтага Плана дзеянняў пры рэалізацыі праграм ЮНЕСКА і паведаміць праграм яго інстытутам ААН, а таксама іншым міжурадавым і няўрадавым арганізацыям, каб паспрыяць аб'яднанню намаганняў на карысць культурнай разнастайнасці.

*Прынята 3 лістапада 2001 г. на 31-й сесіі Генеральнай канферэнцыі, Парыж.*

# Сябры і прыхільнікі ТБМ! Патрэбная Ваша дапамога!

Праз газету "Наша слова" за 4 снежня 2002 г. я звяртаўся да Вас з просьбай аб дапамозе, бо фінансавае становішча ТБМ было крытычным. Дзякуючы Вам, дарагія сябры, сітуацыя стала напрыканцы года лепшай, мы здолелі заплаціць даўгі і годна праіснаваць першы квартал гэтага года. Прывяду толькі некаторыя лічбы.

У 2002 годзе на рэспубліканскі рахунак ТБМ паступіла ахвяраванняў на суму 7.855.869 рублёў, а таксама сяброўскіх складак на суму 1.249.269 рублёў. Гэтыя грошы пайшлі на аплату арэнды памяшкання і камунальных паслугаў, тэлефонаў і факсаў, розныя віды падаткаў, заробкі вартаўнікам і супрацоўнікам Сакратарыяту, а таксама на падтрымку газет ТБМ. З іх толькі на выданне "Нашага слова" пайшло 1.265.000 рублёў. Аплата за фотаздымкі склала 730.128 рублёў.

Зараз у нас практычна скончыліся грошы на выданне нашых газет, бо вынікі падпіскі на іх, нягледзячы на мае індывідуальныя звароты да ўсіх кіраўнікоў нашых рэгіянальных структур, у цэлым не далі станоўчага выніку, а колькасць падпісчыкаў "Нашага слова" на II квартал гэтага года зменшылася, нягледзячы на вельмі нізкі яе кошт.

У сувязі з гэтым мы былі вымушаны з красавіка павялічыць кошт газеты ў продажы і па падпісцы, а таксама зменшыць на 100 асобнікаў колькасць "Нашага слова" для продажу ў шапіках Менска з-за вялікага працэнту спісання някупленых газет.

Грошай на аплату арэнды і іншых паслуг засталося толькі на красавік, а ў траўні зноў можа паўстаць пытанне аб існаванні ТБМ і яго газет.

У сувязі з гэтым я прашу сяброў наступных рэгіянальных структур ТБМ: па Магілёўскай вобл. (Чэрыкаўская, Хоцімская, Крычаўская і Шклоўская раённыя суполкі), па Менскай вобл. (Маладзечанская раённая, Заслаўская, Ждановіцкая, Слуцкая, Уздзенская, Барысаўская, Смалявіцкая, Стаўбцоўская, Старадарожская, Маладзечанская гарадская, Салігорская гарадская, Клецкая і Нясвіжская раённыя суполкі), па Віцебскай вобл. (Аршанская гарадская, Віцебская раённая, Коханаўская, Полацкая гарадская, Шаркоўшчынская і Ушацкая раённыя суполкі), па Берасцейскай вобл. (Берасцейская гарадская, Пінская раённая, Кобрынская і Івацэвіцкая суполкі), па Гомельскай вобл. (Ельская, Акцябрская, Рэчыцкая, Жлобінская гарадская, Светлагорская раённая і Калінкавіцкая гарадскія суполкі), па Гарадзенскай вобл. (Гарадзенская гарадская, Дзятлаўская, Гарадзенская раённая, Смаргонская, Карэліцкая, Ваўкавыская, Астравецкая і Мастоўская суполкі), а таксама сяброў некаторых суполак з г. Менска тэрмінова пераслаць складкі за мінулы год і распачаць збор унёскаў за гэты год.

Будзем вельмі ўдзячныя і за асабістыя ахвяраванні, пералічаныя на наш рахунак. Каб аблегчыць Вашу працу друкуем бланк для пералічэння сяброўскіх складак, якія можна выразаць і скарыстаць.

Бланк для пералічэння ахвяраванняў будзе надрукаваны ў наступным нумары.

Спадзяюся на Ваша разуменне і падтрымку.

З павагай
*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў*

**Паведамленне**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Сяброўскія | ўнёскі | | |
| за 2002 год | | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

Касір
Плацельшчык

**Квітанцыя**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Сяброўскія | ўнёскі | | |
| за 2002 год | | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

Касір М.П.
Плацельшчык

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

*Рэдакцыйная калегія:* Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 7. 04. 2003 г.
Наклад 2200 асобнікаў. Замова № 1135.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
*Кошт у розніцу:* 175 руб. (у Менску - 185 руб.)